ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 39 (1676) | Аўторак, 15 мая 1962 года | Цана 4 кап.

# ДАВОЛІ!

Аляксандр МІРОНАЎ.

Шырыцца мора гневу народнага, грознай хваляй коціцца па планеце:

— Атамшчыкі — даволі! Атамныя выбухі спыніць!

Выбухі ў Невадзе, на амерыканскіх падземных палігонах; выбухі на чамусьці англійскім, хоць ён і знаходзіцца за многія тысячы міль ад Англіі, востраве Раждзяства; выбухі французскіх ядзерных установак рыхтуюцца ў спякотнай Сахары, ніякімі багамі не дадзенай Францыі... Выбухі і пад зямлёю, і пад вадою, і ў атмасферы, і ў стратасферы... Дай ім волю і яны разнясуць на шматкі ўсю планету, ператвораць у касмічны пыл увесь зямны шар!

Што гэта: істэрыя вар'ятаў? «Пасля нас хоць патоп»? Ці яшчэ горш: азлобленая логіка асуджаных—«паміраць дык з музыкаю»? Не, вар'ятамі іх не назавеш, яны і хочуць, і імкнуцца па-ранейшаму вырашаць лёс краін і кантынентаў. І паміраць ніводзін з іх не збіраецца. Нездарма ж самы галоўны з атамшчыкаў, ад якога залежыць націснуць ці не націснуць страшную кнопку, — амерыканскі прэзідэнт так любіць пазіраваць са сваімі маленькімі дзецьмі перад аб'ектывамі фота-кіна- і тэлекамер.

Да якога ж часу можна гуляць у ядзерную арлянку, дзе арол — гэта «халодная вайна», а рэшка — непапраўная, сусветная катастрофа? Да якога ж часу яшчэ будзе і як доўга будзе цярпець чалавецтва гэтую агідную, брудную, праклятую гульню?!

Некалькі дзён назад, вярнуўшыся са Злучаных Штатаў, Герман Цітоў сказаў на маскоўскім аэрадроме, што яны з амерыканскім касманаўтам Гленам знайшлі агульную мову, калі гутарылі пра будучыню касманаўтыкі. Наўрад ці ішла ў гэтых гутарках размова аб выбары атамных цэлей у час касмічных палётаў і канструкцыі прыцэлаў на нашых, савецкіх, і на амерыканскіх касмічных караблях. Хутчэй наадварот: людзі, у тым ліку касманаўты, любяць жыццё, рызыкуюць сабою ў імя жыцця, а не дзеля таго, каб — «пасля нас хоць патоп». Значыць, і думалі, і гаварылі Глен і Цітоў не аб атамнай смерці, а аб далейшым росквіце найвялікшай з навук.

А ў гэты час недзе побач з імі, таксама на берагах Гудзона нябачныя асобы ў генеральскіх мундзірах планавалі новыя серыі ядзерных выпрабаванняў. У гэты час англійскія пяткалізы ў старажытнейшым з парламентаў славаблудзілі напышлівымі прамовамі, выгараджваючы і абараняючы сябе і сваіх заакіянскіх босаў. І ў гэты ж час чарговы прэтэндэнт у напалеоны, які не можа навесці парадак у сваім уласным доме, прымаў рашэнне аб новых ядзерных выпрабаваннях у Сахары...

Кучка ашалелых ад нянавісці вылюдкаў — толькі кучка, а колькі гора, пакутлівага болю, няўпэўненасці ў заўтрашнім дні нясе і прыносіць яна ўсяму чалавецтву!

Шырыцца мора гневу народнага, грознай хваляй коціцца па планеце:

— Неадкладна спыніць якія б там ні было ядзерныя выпрабаванні! Атамным і вадародным бомбам на вечныя часы — не!

Да гэтага грознага, гнеўнага голасу ўсяго чалавецтва далучае свой голас і наш беларускі народ. Мы не забыліся і ніколі не забудзем «зону пустыні», у якую хацеў ператварыць нашу зямлю вар'ят Гітлер. Мы ніколі не забудзем і не даруем тысяч і тысяч мужчын і жанчын, дзяцей і старых, закатаваных у Беларусі гітлераўцамі, як ніколі не забудуць і не даруюць японцы Хірасіму і Нагасакі, англічане — Ковентры, французы — Арадур сюг Глан, чэхі — Лідзіцэ, і ўсе мы разам — асвенцімы і бухенвальды, майданекі і маабіты!

Так, чалавецтва не дазволіць, каб такое, ды яшчэ павялічанае ў мільёны разоў, — паўтарылася. У чалавецтва хопіць сіл прадухіліць катастрофу. У простых людзей Зямлі хопіць настойлівасці і волі, каб уціхамірыць ядзерных маньякаў.

Мір і дружба народаў. Ёй прысвячае сваю натхнёную камуністычную працу ўвесь двухсотмільённы савецкі народ. Міру і дружбе аддаюць сваю стваральную працавітасць усе народы краін лагера сацыялізма. За мір і дружбу вядзе барацьбу незлічоная армія простых людзей у ахопленым ядзерным псіхозам капіталістычным лагеры. Вось чаму і гучыць з кожным днём, з кожнай гадзінай усё мацней і мацней сусветнае, усечалавечае «не!» атамным выпрабаванням, а значыць і падрыхтоўцы ядзернай вайны.

Няма ў сусветнай літаратуры ніводнай кнігі, па-сапраўднаму прынятай чытачамі, у якой услаўляліся б атамшчыкі і іх чалавеканенавісніцкія справы. Няма і ніколі не будзе такіх кніг ва ўсёй шматнацыянальнай, самай жыццесцвярджальнай і чалавекалюбівай савецкай літаратуры. Мы ўслаўляем прыгажосць роднай зямлі, творчае гарэнне і духоўнае багацце будаўнікоў камунізма. Лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў, паэтаў даўно ўжо выйшлі і на ўсесаюзную, і на сусветную арэну, і няма сярод іх ніводнага, у якім гаварылася б са спачуваннем аб тлене і смерці, аб асуджанасці і тэрмаядзерным фаталізме.

Мы — толькі, заўжды і ва ўсім за Жыццё!

Вось чаму сёння, у гэтыя трывожныя дні шэсцьдзесят другой вясны дваццатага стагоддзя, мы, беларускія літаратары, разам з усім беларускім народам, далучаем свой голас да гнеўнага, гарачага, поўнага ўсесакрушальнай сілы патрабавання чалавецтва:

— Даволі! Канец якім бы там ні было атамным і вадародным выпрабаванням!

— Неадкладна дамовіцца аб забароне тэрмаядзерных выбухаў — назаўсёды, на вечныя часы!

— Людзі ўсёй планеты хочуць і будуць жыць у міры і дружбе!

# ГНЕЎНЫ ПРАТЭСТ

У Мінску 10 мая адбыўся расшыраны пленум Рэспубліканскага камітэта абароны міру з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці сталіцы. З дакладам аб барацьбе савецкага народа за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне і падрыхтоўцы да Сусветнага кангрэсу за ўсеагульнае раззбраенне і мір выступіў намеснік старшыні Рэспубліканскага камітэта абароны міру, акадэмік Акадэміі навук БССР П. Глебка.

Дакладчык прывёў прыклады магутнага руху народаў за раззбраенне, за мір. У авангардзе гэтага руху ідуць сацыялістычныя краіны на чале з Савецкім Саюзам.

На пленуме выступілі кіраўнік брыгады камуністычнай працы трактарнага завода Э. Кулік, акадэмік Акадэміі навук БССР Ц. Гарбуноў, настаўніца 41-й школы, маці-гераіня М. Зубкова, пісьменнік І. Шамякін, студэнтка педагагічнага інстытута Г. Сакалова, член прэзідыума Савецкага камітэта абароны міру О. Хвалебная.

У прынятай рэзалюцыі ўдзельнікі пленума аднадушна адобрылі міралюбівую палітыку Савецкага ўрада і горача падтрымалі яго нястомныя намаганні, накіраваныя на ўсеагульнае раззбраенне, на забарону тэрмаядзернай зброі і яе выпрабаванняў, на мірнае ўрэгуляванне ўсіх міжнародных пытанняў, на ўстанаўленне вечнага міру на зямлі.

Сучасная міжнародная абстаноўка, гаворыцца ў рэзалюцыі, абавязвае савецкіх людзей пільна сачыць за правакацыямі падпальшчыкаў вайны. Для таго, каб пабудаваць светлую камуністычную будучыню, велічны план якой натхнёна вызначан у Праграме КПСС, савецкаму народу патрэбен трывалы мір. Умацаванне яго залежыць ад усенароднай стваральнай працы.

Расшыраны пленум Беларускага рэспубліканскага камітэта абароны міру ад імя васьмімільённага беларускага народа прыняў пратэст супраць аднаўлення ўрадам Злучаных Штатаў Амерыкі ядзерных выпрабаванняў. Пратэст заклікае ўсіх людзей добрай волі згуртаваць свае магутныя сілы для барацьбы супраць пагрозы атамнай вайны, за ўсеагульнае раззбраенне і ўмацаванне міру ва ўсім свеце.

# ВІЗІТ ДА БАЛГАРСКІХ СЯБРОЎ

**МАСКВА, 14 мая (ТАСС). Сёння з Масквы ў Сафію па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта Балгарскай Камуністычнай партыі і Урада Народнай Рэспублікі Балгарыі выехала з візітам у адказ савецкая партыйна-ўрадавая дэлегацыя.**

**Дэлегацыю ўзначальвае Першы Сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў.**

**На Унукаўскім аэрадроме М. С. Хрушчова і яго спадарожнікаў цёпла праводзілі кіраўнікі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, прадстаўнікі працоўных Масквы, міністры СССР, члены Цэнтральнага Камітэта КПСС, дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, маршалы Савецкага Саюза і іншыя.**

**На аэрадроме былі кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў, супрацоўнікі пасольства Народнай Рэспублікі Балгарыі, савецкія і замежныя журналісты.**

**Праводзіўшыя пажадалі таварышу М. С. Хрушчову і іншым членам савецкай партыйна-ўрадавай дэлегацыі добрай дарогі.**

* * *

**САФІЯ, 14 мая. Спецкар. ТАСС Д. Бачароў перадае: сёння ў Сафію з візітам у адказ прыбыла савецкая партыйна-ўрадавая дэлегацыя на чале з таварышам М. С. Хрушчовым. На аэрадроме савецкіх гасцей сустрэлі: Першы Сакратар Цэнтральнага Камітэта Балгарскай Камуністычнай партыі Тодар Жыўкаў, Старшыня Савета Міністраў Антон Югаў і іншыя кіраўнікі партыі і ўрада, а таксама шматлікія прадстаўнікі сафійскай грамадскасці, дыпламаты, балгарскія і замежныя журналісты.**



Як майстра высокага класа ведаюць на Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі расточніка механічнага цэха, ударніка камуністычнай працы Міхаіла Алісевіча.

Фота І. ЗМІТРОВІЧА (БЕЛТА).

**Працягваем размову аб тэатральным мастацтве.**

**Сёння мы змяшчаем артыкул Д. Жураўлёва.**

**Наступнае слова — тэатральнаму крытыку Г. Коласу.**

# НА РОЎНЫХ ПРАВАХ

Д. ЖУРАЎЛЁЎ

Чамусьці так ужо ў нас павялося: гаворачы аб тэатральных справах, мы абыходзім, як правіла, адну з найважнейшых праблем — месца і ролю музыкі ў драматычным спектаклі. Гаворку пра гэта можна было пачаць са слоў К. С. Станіслаўскага аб важнасці музычнага ладу сцэнічнага твора. Яны агульнавядомыя. Музыка — магутны сродак, які спрыяе мастацкаму выяўленню вобразаў і ідэі. Аднак, я лічу, так бывае толькі тады, калі кампазітар дае тэатру сапраўдную музыку, а не аркестравую пантаміму. Тут будзе дарэчы напомніць, што за шматвекавую гісторыю музыка да спектакляў нярэдка «вырывалася» за межы чыста тэатральнага жанра і набывала, здавалася б, зусім не ўласцівае ёй значэнне.

Успомнім такія класічныя творы, як «Князь Холмскі» М. Глінкі, «Кароль Лір» М. Балакірава, «Снягурачка» П. Чайкоўскага, «Эгмант» Л. Бетховена, «Арлезіянка» Ж. Бізэ, «Пер Гюнт» Э. Грыга. Яны былі напісаны кампазітарамі да спектакляў і набылі потым усенародную папулярнасць і любоў як творы канцэртныя, стала ўвайшлі ў рэпертуар сімфанічных аркестраў.

Многія выдатныя савецкія кампазітары пачыналі свой творчы шлях са стварэння музыкі да асобных драматычных пастановак і цяпер актыўна працуюць у гэтым жанры.

Эстэтычнай выразнасці і мэтанакіраванасці тэатральная музыка можа дасягнуць тады, калі аўтар знойдзе выразны музычны вобраз спектакля і тым самым дапаможа выканаўцам данесці да гледача пачуцці, імкненні і думкі персанажаў. Кампазітар, які супрацоўнічае з драматычным тэатрам, сустракаецца з пэўнымі цяжкасцямі, ён павінен, захоўваючы творчую індывідуальнасць і самастойнасць, строга прытрымлівацца хронаметражу асобных сцэн, іх характару і рытму, ведаць аб запатрабаваннях рэжысёра і выканаўчых асаблівасцях акцёраў. Патрэбна вельмі глыбокае разуменне спецыфікі тэатра, яго законаў, каб з'явілася на свет музыка, якая памагла б зрабіць спектакль больш яскравым і глыбокім.

Нашы беларускія кампазітары ахвотна адгукаюцца на просьбы тэатраў прыняць удзел у рабоце над новымі пастаноўкамі. Старэйшы беларускі кампазітар Я. Цікоцкі ўдзельнічаў у афармленні больш чым пяцідзесяці спектакляў, Я. Глебаў — дваццаці чатырох, Р. Пукст і Д. Лукас — больш дзесяці. Паспяхова спрабавалі свае сілы ў стварэнні тэатральнай музыкі А. Туранкоў, П. Падкавыраў, Г. Вагнер, Д. Камінскі, Ул. Алоўнікаў, І. Кузняцоў, Ю. Семяняка, І. Ронькін і іншыя.

Большасць гэтай музыкі напісана з пэўным майстэрствам і па праву можа лічыцца каштоўным укладам у скарбніцу нацыянальнага мастацтва. Варта таксама адзначыць разнастайнасць прынцыпаў і метадаў музычнага вырашэння спектакляў, багацце форм асобных музычных нумароў у розных па жанрах п'есах — ад вясёлай камедыі да гістарычнай драмы, ад казкі для дзяцей да класічнай трагедыі.

У многіх спектаклях музыка набывае вялікае значэнне. Яна надзяляе галоўных герояў драматычных твораў разгорнутымі характарыстыкамі, яе буйныя аркестравыя эпізоды памагаюць развіццю дзеяння. Асобныя кампазітары спрабуюць вырашыць музычнае афармленне спектакляў новымі выразнымі сродкамі, адыходзячы ад ранейшых старых традыцый. Вазьміце, напрыклад, музыку Я. Цікоцкага да «Трэцяй патэтычнай» М. Пагодзіна (Тэатр імя Янкі Купалы). Напісаная кампазітарам для сімфанічнага аркестра і фартэпіяннага сола, гэтая музыка надзвычай уражлівая, цалкам адпавядае падзеям п'есы і займае ў вырашэнні мастацкай ідэі твора адно з галоўных месц. Гэта асабліва яскрава выявілася пры паказе «Трэцяй патэтычнай» купалаўцамі на сцэне Крамлёўскага тэатра, калі ў спектаклі прыняў удзел сімфанічны аркестр у складзе 56 артыстаў (салістка Е. Эфрон). Па рэжысёрскай задуме аркестр, як раўнапраўны ўдзельнік спектакля, быў не толькі размешчан на сцэне, але і ў пэўныя моманты саліраваў перад гледачамі.

Аб працы Я. Цікоцкага ў галіне тэатральнай музыкі можна шмат гаварыць. Тут і афармленне цудоўнай камедыі Янкі Купалы «Паўлінка», музыка да якой заснавана на беларускіх народных песнях і танцах, і арыгінальнае вырашэнне мелодыкі мальераўскага «Скупога», п'ес «Ліса і вінаград» Г. Фігейрэда, «Любоў, Надзея, Вера» П. Васілеўскага. Для Я. Цікоцкага ў гэтым жанры характэрны даволі разгорнутыя уверцюры і антракты, сістэма лейттэм галоўных дзеючых асоб, добрае адчуванне стылю спектакля, глыбокае разуменне яго драматургіі і яскравы прафесіяналізм.

У музыцы да пастановак не абавязкова аддаваць перавагу разгорнутым формам, буйным нумарам. Бываюць выпадкі, калі кампазітар кароткай музычнай тэмай, трапнай замалёўкай, удала знойдзеным вобразам стварае патрэбны настрой і памагае раскрыццю ідэйнага зместу п'есы. Такую мастацкі-апраўданую лаканічнасць можна заўважыць у творах Г. Вагнера («Дамы і гусары», «Веру ў цябе», «Трэцяе жаданне»—у Тэатры імя Янкі Купалы). Імкнучыся індывідуалізаваць характары герояў, кампазітар карыстаецца лейтматывамі, знаходзіць новыя прыёмы.

Вельмі ўдалай атрымалася музыка Р. Пукста да спектакля купалаўцаў «Аленькая кветка». Кампазітар не толькі глыбока асэнсаваў і па-свайму «прачытаў» тэкст вядомай казкі, але здолеў з дапамогай музыкі зрабіць спектакль яшчэ больш цікавым і шчырым.

Гаворачы аб музыцы да казачных спектакляў, нельга не ўспомніць аб многіх працах Я. Глебава ў Тэатры юнага гледача — даступных, цікавых і ў той жа час напісаных без спрашчэнства, з пэўным майстэрствам і сапраўднай мастацкай шчодрасцю. Маладому кампазітару належыць музычнае афармленне спектакляў «Востраў скарбаў», «Казачны домік», «Восем лялек і мядзведзік», «За лясамі дрымучымі», якія па словах акцёраў з'яўляюцца «сапраўднымі операмі». Я. Глебаў не абмяжоўваецца толькі аркестравымі нумарамі, а ўводзіць у спектакль сольныя спевы, разнастайныя вакальныя ансамблі, мужчынскі, жаночы і змешаны хоры. Аб тым, якое месца займае музыка амаль у кожнай пастаноўцы Тэатра юнага гледача, можна меркаваць хаця б па п'есе «За лясамі дрымучымі». Пры агульнай працягласці спектакля — 2 гадзіны 10 мінут музыка ў ім гучыць болей чым гадзіну, яна надае гэтаму спектаклю святочны характар, не перашкаджае, а нават спрыяе тэмпу і рытму сцэнічнага дзеяння.

Але трэба шчыра сказаць, што ў тэатральнай музыцы яшчэ сустракаюцца значныя хібы, якія перашкаджаюць яе далейшаму развіццю.

Так, наглядаецца своеасаблівая інерцыя саматужнага музычнага ілюстравання спектакляў, што засталася ў спадчыну ад старых часоў. Ілюстрацыйная музыка, якая выпадае з агульнага настрою спектакля, не дапамагае развіццю дзеяння, а толькі замаруджвае яго і проста перашкаджае акцёрам. Такая музыка, звычайна, не вылучаецца арыгінальнасцю, кампазітарскім майстэрствам, змястоўнасцю і аркестравай вынаходлівасцю. У якасці прыкладу можна прывесці музычнае афармленне І. Любанам яшчэ даваеннай пастаноўкі купалаўцаў «Платон Крэчат» і нядаўнюю работу кампазітара да спектакля «Гаспадар» у гэтым жа тэатры. У абодвух выпадках музыка была настолькі слабая, што тэатр павінен быў адмовіцца ад яе.

Побач з ілюстрацыйнасцю жыве на сцэне штамп. Бывае так, што прагледзіш у якім-небудзь тэатры спектакль на гістарычную тэму, і быццам бы застанешся задаволеным яго музыкай. Усё тут здаецца на месцы: і ўрачыстая, разгорнутая уверцюра, і драматычна-напружаныя моманты ў найбольш хвалюючых сцэнах, і гукі фанфар там дзе трэба, і «абагульняючая» музыка антрактаў. Але, вось, праз некаторы час трапляеш у другі тэатр, на другую гістарычную драму і зноў чуеш разгорнутую уверцюру, драматычную музыку ў адпаведных месцах і амаль такія ж фанфары. Калі гэта паўторыцца яшчэ ў некалькіх спектаклях ( так яно звычайна і бывае і, нават, у адным тэатры), то мімавольна ўзнікае думка, што музыка да ўсіх гэтых спектакляў зроблена па трафарэту і, нягледзячы на свае бясспрэчныя дадатныя якасці, далёкая ад сапраўды творчага вырашэння.

(Заканчэнне на 2-й стар.).



Будынак гомельскага планетарыя.

Фота В. СТАРЧАНКАВА.

# ПОШУКІ І СПРЭЧКІ

**З ЧАЦВЁРТАЙ МІЖРЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ ТЭАТРАЗНАЎЦАЎ ПРЫБАЛТЫКІ І БЕЛАРУСІ**

Тэатр адстае ад жыцця. Гэта гучыць як аксіёма. Пра гэта гавораць з горыччу і непакоем самі работнікі тэатральнага мастацтва — драматургі, рэжысёры, артысты і крытыкі. З вялікай грамадзянскай заклапочанасцю шукаюць яны прычыны гэтага адставання. Часта і не без падстаў, іх папракаюць за слабае веданне жыцця, што асабліва дае сябе знаць у драматургіі. Так, веданне жыцця — аснова асноў усялякае творчасці. Але чаму так здарылася, што іменна драматургія, як від літаратуры, стала ў нас самай адстаючай? Хіба тут працуюць лянівыя, інертныя людзі, якія нібыта і ўсведамляюць, што чагосьці не ведаюць, але і ведаць не хочуць? Чым жа тады растлумачыць такія з'явы, калі празаік ці паэт, творчасць якога вызначаецца глыбінёй разумення рэчаіснасці, раптам «губляе» гэтае разуменне, звярнуўшыся да тэатра. Тут, відавочна, уплываюць і іншыя фактары, якія звязаны з тэхналогіяй драматургічнага жанра. Яны патрабуюць даследавання і вывучэння.

Адна з найбольш важных праблем у тэатральным мастацтве — праблема драматычнага канфлікту. З яго вынікае сцэнічнае дзеянне, праз яго выяўляецца мастацкая ідэя. Важнасць канфлікту ў драматургіі зараз ніхто не аспрэчвае. «Тэорыя» бесканфліктнасці, якая тармазіла развіццё тэатральнага мастацтва ў часы культу асобы, выкрыта і асуджана. Аднак застаецца яшчэ шмат нявысветленых пытанняў: у чым прырода сучасных канфліктаў, якія з іх найбольш характэрныя для грамадства ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма і г. д.

Старшыня секцыі крытыкі Латышскага тэатральнага таварыства Ю. Паберзс, з даклада якога і пачалася работа міжрэспубліканскай канферэнцыі тэатразнаўцаў, выказаў думку аб тым, што павінны адбыцца змены ў творчых пазіцыях драматургаў. «Да гэтага часу наша мастацтва, — сказаў ён, — займалася барацьбой «супраць». Але я думаю, што цяпер, у час, калі ўжо савецкае грамадства, савецкі народ узяліся за канкрэтную пабудову камуністычнага грамадства, гэтая барацьба «супраць» павінна саступіць месца барацьбе «за».

Тую ж думку праводзіла ў сваім дакладзе тэатразнаўца К. Каськ (Эстонія). Асвятліўшы асноўныя этапы развіцця эстонскай драматургіі савецкага перыяду, яна паказала, як паступова ў сцэнічных творах пафас барацьбы супраць буржуазнага мінулага змяняўся пафасам сцвярджэння сацыялістычных ідэй.

Ці застаецца канфлікт асноваю для драматычнай літаратуры гэтага перыяду? Паставіўшы так пытанне, кандыдат філалагічных навук І. Ланкуціс (Літва) адзначыў, што на змену антаганістычным канфліктам павінны прыйсці маральныя. Ён нагадаў выкрытую нашай партыяй «тэорыю» аб абвастрэнні класавай барацьбы па меры набліжэння грамадства да камунізма. Гэтая тэорыя абмяжоўвала мастацтва тэматычна. Адлюстраванне толькі класавых канфліктаў стала інерцыяй і скоўвала сілы літаратуры, асабліва ў Прыбалтыцы. Ланкуціс выступіў супраць недаверлівых поглядаў на маральны і псіхалагічны канфлікты, якія той-сёй лічыць «адыходам ад асноўных задач і тэм савецкай літаратуры». Прамоўца адзначыў прынцыповае значэнне для ўсяго мастацтва, і для тэатра ў прыватнасці, такога твора літоўскай літаратуры, як паэма Межалайціса «Чалавек». Герой гэтай паэмы, гаворыць ад імя сацыялістычнага мільярда і ўсведамляе адказнасць за лёс планеты. Такі герой, на думку Ланкуціса, мог з'явіцца ў літаратуры толькі ў наш час, у атмасферы, якая ўсталявалася ў савецкай дзяржаве пасля XX з'езда КПСС. Сярод твораў драматургіі, у якіх намячаецца паўнакроўнае выяўленне характару сучаснага героя, сапраўднага носьбіта новых ідэй, Ланкуціс назваў «Акіян» А. Штэйна, «Іркуцкую гісторыю» А. Арбузава. Плённым пошукам у гэтым напрамку ён лічыць таксама п'есы «Блакітная рапсодыя» М. Пагодзіна, «Мартас Відзенес» і «Вясельны юбілей» І. Грушаса, «Пад адным небам» А. Маўзона.

«Калі ў драме няма вострых жыццёвых праблем, а толькі закранаецца тая ці іншая тэма, дык, вядома, пра складаны канфлікт не можа быць і гаворкі. Праблема заўсёды канфліктная, а канфлікт амаль заўсёды праблематычны». Гэтым сваім выказваннем Ланкуціс падкрэсліў думку аб тым, што тэма сама па сабе яшчэ не вызначае мастацкасць твора. Важна, якая праблема ў ім ставіцца.

З дакладам «Драматычны канфлікт як мастацкае адлюстраванне жыццёвых супярэчнасцей» выступіў на канферэнцыі кандыдат мастацтвазнаўства Ул. Няфёд (Беларусь). Палажэнні яго даклада, добра сістэматызаваныя і дакладна сфармляваныя, выклікалі шмат спрэчак.

Ул. Няфёд, напрыклад цалкам выключае са сферы драматычнага канфлікту барацьбу чалавека з прыродай. «Прырода, — гаворыць ён, — можа паслужыць толькі повадам для ўзнікнення канфлікту паміж людзьмі, а не прычынай».

«Тэарэтычныя прадпасылкі, калі яны абмяжоўваюць творчы пошук, «забараняюць» тую ці іншую тэму, маюць сумніцельную каштоўнасць. Тут нават спасылкі на аўтарытэты класікаў не павінны прымацца без уліку сучаснай мастацкай практыкі. Пра гэта, палемізуючы з Ул. Няфёдам, гаварыў кандыдат мастацтвазнаўства Ул. Фралоў (прадстаўнік Усерасійскага тэатральнага таварыства). «Я думаю,—сказаў ён,— што формула Бялінскага аб тым, што драматычны канфлікт — гэта «сшибка», сутыкненне характараў, з'яўляецца формулай, якая цяпер не адпавядае поўнасцю ўсёй разнастайнасці драматычнай літаратуры. Бялінскі быў вялікі крытык, але ён не даваў рэцэпты на ўсе часы».

Драматычны канфлікт заўсёды павінен увасабляць жыццёвыя супярэчнасці. Дзе іх вытокі?

Ясным, нязменным і пастаянным вытокам жыццёвых супярэчнасцей у чалавечым грамадстве Ул. Няфёд лічыць грамадскую працу як у класавым, так і ў бяскласавым грамадстве. Зыходзячы з марксісцкага палажэння аб ролі працы ў гісторыі чалавецтва, дакладчык лічыць, што «апасродкаванае выяўленне тэмы грамадскай працы» — галоўная задача мастацтва. Ён прапанаваў класіфікацыю асноўных відаў грамадскіх супярэчнасцей і адпаведных драматычных канфліктаў.

Першы від — гэта супярэчнасці антаганістычныя, звязаныя са зменай класавых фармацый. Яны выяўляюцца ў сацыяльнай барацьбе двух класаў і ў канчатковым выніку вядуць да рэвалюцыйнай змены грамадскага ладу.

Другі від — супярэчнасці неантаганістычныя, паміж камуністычнай свядомасцю і свядомасцю, хворай на капіталістычныя перажыткі. (Гэты від супярэчнасцей уласцівы першай фазе новага грамадства і выяўляецца ў форме крытыкі і самакрытыкі).

Трэці від — супярэчнасці паміж пастаянна ўзрастаючымі матэрыяльнымі і культурнымі запатрабаваннямі грамадства і рэальнымі магчымасцямі ў кожны дадзены момант задавальняць гэтыя патрабаванні. (Гэты від супярэчнасцей уласцівы другой фазе камунізма і выяўляецца таксама ў форме крытыкі і самакрытыкі).

— Канфлікты, умоўна падзеленыя намі на тры асноўныя віды,— гаворыць Ул. Няфёд, — у жыцці часта пераплятаюцца і ўзаемна ўплываюць, ускладняюць адзін аднаго. Глыбіня канфлікту залежыць ад тыповасці характару. Характары ва ўзаемадзеянні нараджаюць канфлікт, з якога вынікае сюжэт — арганічная форма выяўлення зместу.

У падтрымку гэтай канцэпцыі выступілі на канферэнцыі кандыдат філалагічных навук А. Ладыгіна (Мінск), аспіранты Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Ю. Пашкін і А. Лабовіч.

Аднак не ўсіх удзельнікаў канферэнцыі яна задаволіла. Асноўнымі апанентамі Ул. Няфёда з'явіліся Ул. Фралоў і загадчык літаратурнай часткі Рыжскага тэатра рускай драмы З. Сегаль. На думку Фралова, у сучаснай драматургіі, у структуры сучасных канфліктаў існуе некалькі кірункаў. Першы такі кірунак прадугледжвае адкрытае сутыкненне супрацьлеглых сіл. Да ліку такіх твораў адносіцца шмат гераічных драм з рэвалюцыйным канфліктам, што ствараецца ў адкрытым баі, дзе яскрава акрэслены чырвоны і белы колеры.

Другім напрамкам у драматычнай літаратуры Ул. Фралоў лічыць плынь, ля вытокаў якой стаіць чэхаўская драматургія — калі на паверхні сюжэта няма прамых сутыкненняў, а «ў глыбіні» ідзе вялізарная барацьба думак, пачуццяў і разуменняў. Гэты, другі напрамак прамоўца лічыць найбольш сучасным у абстаноўцы пасля XX з'езда КПСС. Маральны кодэкс будаўніка камунізма, распрацаваны ў новай Праграме КПСС, ставіць перад мастацтвам задачу маральнага ўздзеяння на гледача, маральнага яго выхавання.

З. Сегаль заклікаў да канкрэтнасці разважанняў аб прыродзе канфлікту. Ён спасылаўся на творы, у аснове якіх нібыта закладзены «працоўны» канфлікт, але якія не хвалююць гледача, таму што ім нестае псіхалагічнай дакладнасці («Гаспадар» Собалева, «Вялікае хваляванне» Дварэцкага). У той жа час неабавязкова, каб кожная п'еса будавалася на працоўнай тэме. «Няўжо не зразумела, — гаворыць Сегаль,— што мы павінны вырашаць праблему чалавечага гонару, праблему справядлівасці, праблему кахання ў камуністычным грамадстве?.. Атрымліваецца так, што ўсё гэта трэба зноў у нейкую схему ўвінціць і падвесці пад каханне працоўную базу.

З. Сегаль выказаў нязгоду з тэарэтычным тэзісам Ул. Няфёда адносна супярэчнасцей паміж патрэбамі і іх задавальненнем у камуністычным грамадстве.

З крытыкай палажэнняў даклада Ул. Няфёда выступілі драматург А. Маўзон, адказны сакратар Беларускага тэатральнага таварыства П. Левашоў і мастацтвазнаўца Ю. Лазарайціс.

Доктар мастацтвазнаўства Г. Гаян (Масква) таксама выказаў пэўнае незадавальненне дакладам Ул. Няфёда, таму што ў ім адсутнічалі спасылкі на канкрэтныя з'явы мастацтва, агульныя тэарэтычныя вывады не падмацаваны аналізам драматургічных твораў. Аднак цэлы рад меркаванняў дакладчыка Г. Гаян лічыць цікавымі і слушнымі: погляд на тэорыю бесканфліктнасці, на яе вытокі. Бясспрэчнай лічыць ён і канцэпцыю Ул. Няфёда адносна прыроды і вытокаў грамадскіх канфліктаў. Ён прапануе прыняць яе як аснову самой праблемы канфлікту ў мастацтве, якая можа ўдакладняцца і развівацца.

Г. Гаян заклікаў да высокага прафесіяналізму ў тэатразнаўстве. Тэатральны крытык, сказаў ён, павінен, як і кожны спецыяліст, добра ведаць сваю справу. А наша справа — гэта гісторыя і сучасная практыка тэатра. Няведанне гісторыі вядзе крытыка, якім бы таленавітым ён ні быў, да дылетантызму і памылковых разуменняў справы. Г. Гаян рэзка крытыкаваў некаторыя выказванні Ю. Паберзса аб умоўнасці і лаканізме, за якімі адчувалася пагарда да глыбокага вывучэння жыццёвых з'яў.

У заключэнне Г. Гаян адзначыў плённасць такіх мерапрыемстваў, калі тэатразнаўцы розных рэспублік абменьваюцца думкамі аб праблемах мастацтва і выказаў пажаданне, каб вопыт тэатральных таварыстваў Беларусі, Латвіі, Літвы і Эстоніі быў пераняты ў іншых рэспубліках.

Закрываючы канферэнцыю, старшыня праўлення Беларускага тэатральнага таварыства Л. Александроўская паведаміла, што наступная сустрэча тэатразнаўцаў Прыбалтыкі і Беларусі адбудзецца праз год у сталіцы Латвіі Рызе.

Г. КОЛАС.

